


# Весткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"

Viestki j Paviedamleńni

Электронны адрас: viestki@mail.com
✉ P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735

№ 8(690)
Жнівень 2023 г.


# Марш Паняволеных Народаў у Нью-Ёрку

У нядзелю, 16 ліпеня 2023 году, на Мангэтане прайшоў Марш Паняволеных Народаў. Гэтая імпрэза, што адбываецца ўжо ў 65-ты раз, была зладжаная прадстаўнікамі Камітэту Паняволеных Народаў з удзелам Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Звычайна Маршам адкрываецца Тыдзень Паняволеных Народаў, запачаткаваны ў 1959 годзе, дзякуючы высілкам прадстаўнікоў народаў, што былі паняволеныя савецкім камунізмам, сярод якіх актыўную ролю адыгралі сябры арганізацыяў беларусаў і ўкраінцаў у ЗША.

Камітэт Паняволеных Народаў, што займаецца правядзеньнем Тыдня, быў створаны намаганьнямі ўкраінца прафэсара Джорджтаўнскага ўнівэрсытэту Ільва Дабранскага, прадстаўніка Украінскага Кангрэсовага Камітэту, а таксама Івана Касяка зь Беларускага Кангрэсовага Камітэту, Міколы Гарошкі зь Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА). Сярод іншых беларускіх актывістаў варта згадаць такіх асобаў як Міхась Тулейка, Мікола Кунцэвіч, Антон Шукелойць, Міхась Сенька. Беларусы ўдзельнічалі ў Тыднях Паняволеных Народаў у розных гарадах Амэрыкі.

У якасьці перадгісторыі гэтай імрэзы варта згадаць, што ў сярэдзіне 1950-х гадоў Саветы актывізавалі спробы прадставіць свае калёніі, БССР і ЎССР, як нібыта сувэрэнныя "савецкія сацыялістычныя" дзяржавы, спрабаваў прызнаньня асобных амбасадаў і прапагандаваў фікцыйны росквіт нацыянальных культураў у СССР. З падтрымкай ідэі амбасадаў для савецкіх рэспублікаў выступіў нават шэраг амэрыканскіх кангрэсмэнаў, што памылкова ўважалі, нібыта тое паспрыяе стану нацыянальных групаў у Саветах. Прадстаўнікі народаў паняволеных савецкім камунізмам, а найперш украінскія і беларускія арганізацыі, былі абураныя такой хлусьлівай прапагадысцкай кампаніяй і вырашылі стварыць Камітэт Паняволеных Народаў, які аб'яднаў бы апанэнтаў савецкага камунізму і скаардынаваў бы дзеяньні па ўплыву й інфармаваньні Кангрэсу, Сэнату і прэзыдэнта Злучаных Штатаў, а таксама кожную іншую афіцыйную амэрыканскую структуру ў пляне падтрымкі вызваленьня народаў, а таксама мог бы мэтанакіравана інфармаваць амэрыканскае грамадзтва пра стан справаў ды камуністычны ўціск пад Саветамі. Да Камітэту далучыліся іншыя нацыянальныя арганізацыі народаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, што трапілі пад камуністычнае панаваньне.

У выніку ў Амэрыцы ўтварыўся ўплывовы антыкамуністычны асяродак, добра інфармаваны і каардынаваны, які здолеў прыцягнуць на свой бок шэраг амэрыканскіх палітыкаў, што правялі ў Кангрэсе законапраект аб заснаваньні Тыдня Паняволеных Народаў з увагаю на тыя нацыі, што апынуліся пад камуністычным і дыктатарскім панаваньнем. Трэці тыдзень месяца ліпеня кожны год

заканчэньне на бачыне 4



# Акцыя памяці ахвяраў рэпрэсіяў у Беларусі

Усераду, 12 ліпеня 2023 году, перад Саборам Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне прайшла акцыя памяці, прысьвечаная беларускаму мастаку Алесю Пушкіну, які загінуў у зьняволеньні напярэдадні 11 ліпеня. Былі ўзгаданыя таксама іншыя героі, загінуўшыя беларускія палітвязьні, ахвяры рэжыму Лукашэнкі, што аддалі свае жыцьці за Бацькаўшчыну. Акцыя таксама мела на мэце абарону тых, што апынуліся за кратамі рэжыму, і якім пагражае такі самы лёс, які напаткаў Алеся Пушкіна, Вітольда Ашурку і Мікалая Клімовіча.

Перад саборам на прыступках каля ўваходу, паміж бюстаў герояў Беларусі Кастуся Каліноўскага і Тадэвуша Касьцюшкі быў усталяваны імправізаваны мэмарыял з выяваю Алеся Пушкіна, з запаленай сьвечкай і сымболямі ягонай творчасьці – мальбэртам і палітраю з пэндзлямі. Да іх былі ўскладзеныя кветкі ў колерах нашага нацыянальнага сьцягу, а побач стаяў і сам бел-чырвона-белы сьцяг. Таксама непадалёк луналі беларускі, амэрыканскі й украінскі сьцягі. Удзельнікі акцыі сталі з партрэтамі Алеся Пушкіна і плякатамі "Спыніць забойствы ў Беларусі" і "Гэта – мой Пушкін, а іншага ня трэба!"

Напачатку акцыі са словам да прысутных выступіў старшыня Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" сп. Віталь Зайка, які прапанаваў ушанаваць памяць Алеся Пушкіна, а таксама ўсіх загінуўшых за Беларусь хвілінай цішы. Затым прамоўца адзначыў, што Алесь Пушкін прысьвяціў усё сваё жыцьцё барацьбе за вольную, незалежную і сапраўды беларускую Бацькаўшчыну. Ягоная творчасьць лучыла ў сабе і нацыянальны, і духовы аспэкты.

У свой час Алесь Пушкін прыйшоў да веры, займаўся росьпісамі ў беларускіх цэрквах і касьцёлах, і ў ягонай творчасьці ёсьць мноства працаў самага высокага ўзроўню, што цяпер застаюцца помнікамі яму і ягонаму жыцьцю, ягонай адданасьці Беларусі. Ушаноўваючы памяць Алеся Пушкіна, як падкрэсьліў прамоўца, мы мусім не забывацца на тых, хто цяпер знаходзяцца на мяжы жыцьця і сьмерці, бо, нажаль, сьпіс тых, хто аддае свае жыцьці за свабоду Беларусі, цэлы час папаўняецца. І таму мы сёньня сабраліся, каб выказаць свой пратэст супраць катаваньняў у Беларусі і каб паказаць салідарнасьць з палітзьняволенымі і ўсімі героямі, што аддалі самае дарагое – свабоду й жыцьцё – за нас і за Беларусь.

Затым выступіў мастак і скульптар сп. Гэнік Лойка, які ведаў Алеся Пушкіна асабіста. У сваім выступе ён згадаў гады навучаньня Алеся Пушкіна, які быў маладзей на некалькі год, у мастацкім інтэрнаце і затым у тэатральна-мастацкім інстытуце, падкрэсьліў ягоную нацыянальную пазыцыю, якая выразна праходзіла праз усю творчасьць мастака. "Часам па маладосьці й браку досьведу гэта прымала памылковыя формы, але ўрэшце Алесь стаў сапраўдным патрыётам і ўзорам творцы й змагара за свабоду і незалежнасьць Бацькаўшчыны, і таму ён быў небясьпечны для рэжыму".

Сп-ня Ганна Шарко, якая стала галоўнай ініцыятаркай імпрэзы, выказала свой боль і горыч дзеля таго, што рэжым у Беларусі забівае лепшых людзей. "Мы часта даведваемся пра выдатных людзей, якія жылі побач з намі са спазьненьнем, калі іх ужо няма з намі..." Прамоўца адзначыла, што калі мы хочам зьменаў, мы мусім дзейнічаць, а шлях да перамогі над злом пачынаецца з самых малых дзеяньняў, як, напрыклад, з фінансавай падтрымкі палітвязьняў і сем'яў, з удзелу ў імпрэзах, з напісаньня лістоў да палітыкаў – кангрэсмэнаў і сэнатараў у ЗША. Ганна заклікала кожнага задаць сабе пытаньне: "Што я магу зрабіць, каб такія здарэньні, як сьмерць Алеся Пушкіна, больш не паўтараліся? Мы павінны ў любы магчымы спосаб даводзіць, што супраціў дыктатуры – гэта чын ня толькі для адважных адзінак, а справа ўсіх беларускіх людзей, што выступаюць за свабоду, незалежнасьць, лепшую долю для сваёй Бацькаўшчыны".




Сябар БАЗА сп. Міхась Чаропка падзяліўся з прысутнымі тым, калі й дзе ён пазнаёміўся з творчасьцю Алеся Пушкіна. Ён падкрэсьліў, што гэты мастак змагаўся з рэжымам да апошняга і выкарыстоўваў сваё мастацтва як сродак барацьбы. Міхась заклікаў прысутных пашыраць інфармацыю пра гэтага выдатнага беларускага творцу сярод сяброў і знаёмых, каб памяць аб ім была з намі як мага даўжэй, ён гэтага варты.

Прадстаўніца ўкраінскай дыяспары сп-ня Людміла Хомчанка падкрэсьліла, што людзі гінуць ад рук двух злачынных рэжымаў, Лукашэнкі й Пуціна, што цяпер аб'ядналіся супраць памкненьня народу Ўкраіны вызваліцца з пост-савецкага ачмурэньня. Яна заклікала працягваць падтрымку беларускіх ваяроў-дабрахвотнікаў ва Ўкраіне. Па яе словах, такія ахвяры як мастак Алесь Пушкін, павінны нагадваць пра тое, што свабода не даецца задарма і за яе неабходна змагацца.

Затым удзельнікі мелі мажлівасьць працягнуць камунікаваньне ў грамадзкай залі Сабора, падзяліцца сваімі думкамі пра сытуацыю й падзеі ў Беларусі й Украіне.

Імпрэза была арганізаваная Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем "Пагоня", парафіяй катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне (БАПЦ), Асацыяцыяй Беларусаў у Амэрыцы (АБА) і Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем (БАЗА).

***Віталь ЗАЙКА***

# "РЫМСКІ КЛЮБ": як штучны кліматычны крызіс выкарыстоўваецца для стварэньня сусьветнага ўраду

У пачатку 1970-х гадоў ЗША і большасьць краінаў Захаду апынуліся ў эканамічнай стагнацыі. Эўрапейскі пасьляваенны бум скончыўся, а кошты з-за вельмі высокай інфляцыі (каля 20%) расьлі аж да пачатку 1980-х гадоў. У кінафільмах тыя часы часта паказаныя як шчасьлівыя часы дыска, гіпі і рок-н-ролу, але ў сапраўднасьці 1971 год стаў пачаткам канца заходняй цывілізацыі, калі быў зламаны эканамічны фундамэнт грамадзтва, і ў зьбяднелай з-за высокай інфляцыі сярэдняй клясы быў скрадзены любы ўплыў на палітыку.

У разгар таго крызісу ААН і асацыяваныя зь ёю глябалісцкія арганізацыі нястомна працавалі распрацоўваючы схему папулярызацыі сярод насельніцтва ідэі глябальнай цэнтралізацыі ўлады. У мэтах яны не саромеліся, і яны былі наступнымі:

- згода людзей на дзяржаўны кантроль росту насельніцтва;
- улада абмяжоўваць прамысловую вытворчасьць;
- улада кантраляваць вытворчасьць энэргіі і яе крыніцы;
- улада кантраляваць і абмяжоўваць вытворчасьць прадуктаў харчаваньня;
- здольнасьць кіраваць жыцьцём грамадзянаў у імя дасягненьня нейкіх, вызначаных імі, "вялікіх мэтаў".
- адна сусьветная эканамічная сыстэма, якой яны будуць кіраваць;
- адна сусьветная грашовая сыстэма;
- адзін сусьветны ўрад.

Найбольш красамоўная цытата, што адлюстроўвае гэтыя памкненьні, належыць дзяржсакратару адміністрацыі Б. Клінтана Стробу Талботу. Ён тады напісаў у часапісе "Тайм" (Time): "у наступным стагодзьдзі нацыі, як мы іх ведаем, зьнікнуць, і ўсе дзяржавы прызнаюць адзіную глябальную ўладу, пагадзіўшыся, што нацыянальны сувэрэнітэт ня быў такой ужо выбітнай ідэяй."

Добра тлумачыць, як гэтая ідэя працуе, артыкул "Цяжкая дарога да сусьветнага парадку" сябра глябалісцкай "Рады па замежных сувязях" (Council on Foreign Relations) Рычарда Гарднэра, што быў надрукаваны ў часапісе "Замежныя справы" (Foreign Affairs). У ім ён пісаў, што "будынак сусьветнага парадку" трэба будзе будаваць зьнізу ўверх, а не наадварот. Гэта будзе вялікі пераварот, мэтаю якога будзе дзяржаўны сувэрэнітэт, які будзе няспынна кавалачак за кавалачкам размывацца. На ягоную думку, такі падыход дазволіць дасягнуць нашмат больш, чым прымусовая перабудова сьвету зьверху ўніз.

Глябалісты ўжо тады ведалі, што паступовасьць – адзіны шлях пабудовы структуры, якая будзе кіраваць сьветам. І сёньня іх ўжо не задавальняе схаваньне кіраваньне сьветам праз падстаўных арганізацыі і прадажных палітыкаў. Іхняе нарцыстычнае эга патрабуе, каб масы ім пакланяліся адкрыта. Але нават паступовае зьнішчэньне нашай свабоды ўрэшце насьцярожыць грамадзтва і выкліча пратэст. Як жа яны плянавалі зьнішчыць індывідуальныя свабоды і кіраваць сьветам, ня выклікаўшы паўстаньня, якое іх зьмяце?

Іх плян спрацуе толькі тады, калі людзі будуць задаволеныя сваім рабствам, калі яно стане адзіным шляхам для выжываньня ня толькі кожнаму асабіста, але і ўсяму чалавечаму роду. Тады ў выпадку зьяўленьня нязгодных, яны будуць выглядаць монстрамі для ўсіх астатніх. Непадпарадкаваньне ўладам, на думку людзей, паставіць пад пагрозу выжываньне ўсёй грамады. Гэта канчатковая перамога глябалістаў, і ня толькі на сёньня, але назаўжды, бо ў такіх ўмовах ніякая апазыцыя існаваць ня зможа.

Добрае ўяўленьне пра тое, як такая псыхалягічная вайна адбудзецца, мы атрымалі падчас так званай пандэміі, калі вірус зь вельмі нізкім сьмяротным вынікам (0,23%) стаў нагодаю пазбавіць людзей большасьці чалавечых правоў. На шчасьце людзі тады разабраліся і выступілі супраць, мандаты і пашпарты павыкідалі. Але сёньня глябалісты разыгрываюць нашмат большую "вялікую мэту" – так званы "кліматычны крызіс".

Для яснасьці трэба заўважыць, што няма ніякіх доказаў, што зьмена клімату выклікана дзейнасьцю чалавека ці "парніковым эфэктам". Цяпер не адбываецца ніякіх экстраардынарных прыродных зьяваў, якіх раней не было на Зямлі. Сярэдняя тэмпература ўзьнялася менш чым на адзін градус за апошнія сто гадоў. Афіцыйныя тэмпературныя дасьледваньні сягаюць не далей як у 1880-я гады. І гэты вузкі прамежак часу выкарыстоўваецца ААН для раздуваньня гістэрыкі адносна выдуманага канца сьвету. Тое ж самае рабіла Сусьветная Арганізацыя Аховы Здароўя, раздуваючы гістэрыку і страх адносна каронавірусу і кавіду. І ўсё гэта пачалося ў пачатку 1970-х гадоў з заснаваньнем падтрыманай ААН групы пад назваю "Рымскі Клюб" (Club of Rome).

Глябалісты пачалі будаваць пляны выкарыстаньня экалёгіі для цэнтралізацыі ўлады яшчэ ад тых часоў. А ў 1992 годзе выйшла кніга "Першая глябальная рэвалюцыя" (First Global Revolution), у якой адкрыта рэкамэндавалася выкарыстоўваць глябальнае пацяпленьне як рухавік для дасягненьня гэтых мэтаў. У пошуках агульнага ворага, супраць якога павінн аб'яднацца чалавецтва для свайго выжываньня, прапаноўваюцца забруджваньне прыроды, пагроза пацяпленьня, недахоп вады, голад і г. д. Татальнасьць гэтых зьяваў і іх ўзаемасувязь падказваюць, што змагацца зь імі трэба ўсім разам. Але калі паверыць, што гэтыя зьявы і ёсьць сапраўдныя ворагі чалавецтва, будзе памылкаю. Тут павінна напрошвацца ідэя, што гэтыя небясьпечныя зьявы выкліканыя ўмяшаньнем чалавека ў натуральныя працэсы на Зямлі, і змагацца зь імі можна толькі мяняючы паводзіны і адносіны ўсіх людзей. Значыць, сапраўдны вораг людзей само чалавецтва...

Прапаганда гэтай ідэі пачалася ў разгар эканамічнага крызісу, які быў выкліканы не недахопам рэсурсаў, а штучна створаны цэнтральнымі банкамі і ўрадамі, каб потым перавесьці страхі перапалоханага насельніцтва ў кліматычную гістэрыку. Спектакаль канца сьвету пачаўся ў пачатку 1970-х, і сёньня глябалісты спадзяюцца скончыць пастаноўку цягам наступнага дзесяцігодзьдзя, у тым ліку і праз ападаткоўваньне выкідаў вуглякіслага газу. Яны хочуць праз такую ўзаемазалежнасьць усяго сьвету зрабіць "ахову навакольнага асяродзьдзя" глябальнай рэлігіяй, а свабоду – сьмяротным грахом.

"Рымскі Клюб" сёньня не такі магутны, як некалі, ягоную справу пераняли ААН і іншыя глябалісцкія цэнтры думкі, але ягоная ідэя кліматычнай катастрофы напаўніцу выкарыстоўваецца для абмежаваньня выкарыстаньня энэргіі і сельскай гаспадаркі.

Калі гэтыя злачынныя дзеяньні сёньня не спыніць, то хутка таталітарныя законы стануць нормаю па ўсім сьвеце, і наступнае пакаленьне будзе жыць у створанай для яго галечы і з раньняга дзяцінства верыць, што глябалісты "выратавалі сьвет" ад катастрофы (якая ніколі не існавала), а рабства людзей – гэта падарунак, які іх выратаваў.

Магчыма, шмат хто з чытачоў не пагодзіцца з маімі развагамі і палічыць прыведзеныя факты падтасаванымі, бо ўжо паверыў у догмы новай рэлігіі. Але спадзяюся, што артыкул прабудзіць і ў іх жаданьне крытычна думаць і памятаць, што за сваю свабоду трэба змагацца штодня, і ня толькі ў таталітарных дзяржавах як Беларусь ці Кітай, але і жывучы тут, у пакуль яшчэ адносна свабодным Вольным сьвеце.

***Я. З.***

# Марш Паняволеных Народаў у Нью-Ёрку

заканчэньне з бачыны 1

абвяшчаўся Тыднем Паняволеных Народаў. Неўзабаве прэзыдэнт Айзэнгаўэр падпісаў "Грамадзкі закон 86-90", і Тыдзень Паняволеных Народаў стаў штогод масава адзначацца прадстаўнікамі ўсіх паняволеных народаў, пераважна з Усходняй і Цэнтральнай Эўропы.

Усе гэтыя дзеяньні трапілі пад увагу савецкіх прадстаўнікоў, і ўжо ў 1959 годзе М. Хрушчоў на сустрэчы з віцэ-прэзыдэнтам Р. Ніксанам паскардзіўся падчас перамоваў па Бэрлінскім крызісе на варожасьць Амэрыкі і абвінаваціў ЗША ў падрыхтоўцы развалу Савецкага Саюзу, прыводзячы як доказ, стварэньне Камітэту Паняволеных Народаў і рэзалюцыі ў Кангрэсе ЗША адносна яго.

У далейшым дзейнасьць Камітэту Паняволеных Народаў і ягоныя імпрэзы сталі часткаю змаганьня супраць савецкай камуністычнай сыстэмы, і ў выніку падзеяў 1989-1991 у краінах Усходняй і Цэнтральнай Эўропы камуністычнае панаваньне зьнікла, Савецкі Саюз быў разбураны, і ўтварылася незалежная Рэспубліка Беларусь. Тады дзейнасьць Камітэту Паняволеных Народаў і Тыдзень Паняволеных Народаў заняпалі. Але ад 1995 году, неўзабаве пасьля прыходу да ўлады Лукашэнкі, беларускія арганізацыі аднавілі правядзеньне Тыдня Паняволеных Народаў і застаюцца самымі актыўнымі ўдзельнікамі й да гэтага часу.

Сёлета Тыдзень Паняволеных Народаў праводзіўся у скарочаным фармаце, у прыватнасьці дзеля таго, што ня быў атрыманы дазвол ад адміністрацыі Сабору Сьв. Патрыка на правядзеньне асьвячэньня сьцягоў Паняволеных Народаў і імшы за Паняволеныя Народы, што рабілася шмат год перад тым. Гэта зьвязана з адыходам ад кіраўніцтва справамі Сабору пробашча-рэктара мансінёра Робэрта Рычы і прыходу новай асобы, а. Кінга. Таксама правядзеньню сёлетняга мерапрыемства не спрыяла надвор'е – з самай раніцы і цэлы дзень ішоў дождж, які часьцяком пертвараўся ў навальніцу. За ўсю гісторыю ўдзелу аўтара гэтых радкоў у імпрэзе адкрыцьця Тыдня Паняволеных Народаў гэта быў хіба адзіны выпадак, калі цэлы час ішоў дождж.




Удзельнікі імпрэзы сабраліся каля гатэлю Пляза, пад рыштаваньнямі, што давалі дзе схавацца ад дажджу. У гэтым годзе ўдзельнікаў было менш, чым у папярэднія гады. Прысутныя выйшлі зрабіць агульны фатаздымак перад Пуліцарфатанам ля гатэлю Пляза. Потым усе вырушылі па 59-й вуліцы ўбок Калюмбусцыркулю і Мэйн-манумэнту на рагу Бродўэю і 59-й вуліцы. Па дарозе гучэлі заклікі "Свабоду Беларусі!", "Свабоду Вэнэсуэле!", "Свабоду Тыбету!", "Свабоду ўсім Паняволеным Народам!"

Зрабіўшы фатаздымкі на памяць каля Мэйн-манумэнту пры ўваходзе ў Сэнтрал-Парк, прысутныя затым сталі там у шэраг, і адбылося адкрыцьцё Тыдню Паняволеных Народаў у Нью-Ёрку. Прагучэлі ўшанаваньне сьцягу і гімн ЗША. Сп. Яан Куўм, сакратар Камітэту Паняволеных Народаў, прывітаў прысутных і выказаў патрэбу кансалідацыі сілаў для перамогі над камуністычнай і постсавецкай тыраніяй. Ён распавёў пра дэклярацыю прэзыдэнта ЗША і прачытаў рэзалюцыю ўдзельнікаў адкрыцьця Тыдню Паняволеных Народаў.

З-за залевы імпрэза была скарочаная. Сёлета была мажлівасьць удзелу ў імпрэзе ўдзельнікаў зь ліку прадстаўнікоў паняволеных народаў з Расеі, але яны ў апошні момант былі запрошаныя на мерапрыемствы Тыдню Паняволеных Народаў у Вашынгтоне, ладжаных Фундацыяй Ахвяраў Камунізму.

**Віталь ЗАЙКА**

**Уплаты ў Згуртаваньне**

**Складкі й ахвяраваньні:**

**Н. Васюк .................70**
**Е. Пыльская ............60**

**Шчыры дзякуй!**

Аб імпрэзах, ладжаных Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем "Пагоня", а таксама пра важныя бягучыя падзеі ў жыцьці арганізацыі можна даведацца наведаўшы старонку "Пагоні" ў Фэйсбуку: ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**Н. Васюк ..................30**
**Е. Пыльская .............30**

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня "Пагоня" *Viktar Yedzinovich.***

Шаноўныя сябры Згуртаваньня "Пагоня", калі ласка, сваечасова аплочвайце сяброўскія складкі й падпіску на інфармацыйны бюлетэнь ***"Весткі й Паведамленьні".***

*Інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на адраснай налепцы на канвэрце справа ад прозьвішча.*

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні" **Viktar Yedzinovich**.*